© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Пачатак на стар. 1



# Сям'я Абрамовічаў

Зямлі ў Абрамовічаў 10 га. Уся іх сям'я, нават дзеці шмат працуюць на зямлі. Сямікласніца Варварка даглядзіць усё: і гусят, і куранят, і ў хаце ўсё зробіць, і трохгадовай сястрычкай заапякуецца. Пяцікласнік Зютак на касярцы фурмануе падчас сенакосаў. Часта з Варваркай набіраюць бульбу, засыпаюць яе ў парнік і вараць для свіней.

Добрыя даходы з гаспадаркі дазволілі Абрамовічам некалькі год таму назад пабудаваць вялікую клуню і яшчэ адзін прасторны хлеў размерам 19 метраў на 6,5 м. У гэтым будынку ёсць і летняя кухня, у якой знаходзіцца хлебная печ і печка. Калі пацяплее, Абрамовічы вараць у летняй кухні аж да восені. У хаце тады чысцей, яшчэ прыемней, і не трэба цягнуць туды ані дроў, ані вады, ані бульбы, ані іншых прадуктаў.

Хату ў мінулым годзе Абрамовічы таксама аднавілі. Аббілі сцены пільснёю і памалявалі; знялі з даху чарапіцу і пакрылі тэрнітам.

У Абрамовічаў на найбліжэйшы перыяд запланаваны наступныя інвестыцыі: 1) зрабіць 38 метраў жалезнай агароджы, 2) купіць і абсталяваць „сілу", 3) купіць сабе млынок-„сьрутоўнік", 4) дабіцца яшчэ лепшых вынікаў у сельскагаспадарчай прадукцыі.

У свабодны ад працы час Абрамовічы любяць паглядзець тэлевізійныя перадачы. Ад моманту куплі ўласнага тэлевізара яны маюць кантакт са светам. Сваімі вачамі бачаць дзяржаўных дзеячоў, артыстаў, розныя гарады і г.д.

Два гады таму назад Яўген Абрамовіч уключыўся ў агульнаваяводскі конкурс „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная". У спаборніцтве дасягнуў добрыя вынікі і яму прызнана званне „майстра сельскагаспадарчай прадукцыі". Ён таксама з'яўляецца адным з двух солтысаў у Мілейчыцах і належна выконвае сваю ганаровую функцыю. Ён добры член ПАРП і актыўны член БГКТ.

**Міхась Хмялеўскі**

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Дзіцячы фальклор**, 1972, стар. 736, цана 20 зл. 70 гр.

Гэта чарговы том з цыкла „Беларуская народная творчасць", які выпускае Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Складальнікам тому з'яўляецца Г. А. Барташэвіч. Уступныя артыкулы напісалі Г. Барташэвіч і В. Ялатаў. У том увайшло 1117 твораў, большасць песень мае ноты. Змест тому — гэта калыханкі, забаўлянкі, песні, заклічкі, прыгаворкі, дражнілкі, лічылкі, гульні. Надзвычай багаты, чароўны свет мелодый, павучальных і займальных твораў, якімі абдаравала вусная народная творчасць беларускага народа малалецтва і дзяцінства.

**Бандарчык В. К.**, Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі, 1972, стар. 168, цана 5 зл. 50 гр.

Кніга належыць пяру выдатнага сучаснага беларускага фалькларыста. Яна прысвечана гісторыі вывучэння быту і культуры беларускага народа за гады Савецкай улады.

**Гісторыя беларускай савецкай музыкі**, 1971, стар. 544, цана 15 зл. 30 гр.

Кнігу напісалі вядомыя знаўцы беларускай музыкі Г. С. Глушчанка, Л. С. Мухарынская, С. Г. Нісневіч, К. І. Сцепанцэвіч, Т. А. Шчарбакова. Гэтае выданне з'яўляецца падручнікам па гісторыі беларускай музыкі савецкага часу, адрасаваным да студэнтаў музычных вышэйшых навучальных устаноў, але адначасова яно — дасканалы даведнік з гісторыі гэтай галіны культуры Беларускай ССР.

**Янка Купала**, 1972, стар. 176, цана 19 зл. 70 гр.

Альбом, прысвечаны жыццю і творчасці песняра беларускага народа, склалі І. К. Жыдовіч і Я. Ю. Рамановская. Уступ напісаў вядомы беларускі пісьменнік старэйшага пакалення Міхась Лынькоў. Выданне багата ілюстравана. У яго канцы змешчан летапіс жыцця, літаратурнай і грамадскай дзейнасці Янкі Купалы.

Дасканалая рэч! Яна павінна абавязкова быць у кожнай бібліятэцы, а таксама ў руках усіх настаўнікаў беларускай мовы. Вельмі карысны дапаможнік на ўроках роднай мовы.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем з далучэннем рахункаў. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10. (мг)

Пачатак на стар. 1

# Таленты з Арэшкава

даўнія, прыгожыя — раслінныя матывы, часам птушыныя.

Гаспадар — Валодзя Кашэль прысеў таксама бліжэй печы. Найперш слухае маю размову з Верай, а потым і сам дапаўняе цікавыя інфармацыі пра жонку, пра іншых жанчын у вёсцы, што яны здольныя пеўчыя і песні іх прыгожыя. І кажа, нібы канчаючы свае ўнутраныя думкі: „Няхай і пра Арэшкава з-за бабаў будзе напісана ў газеце".

У вёсцы ёсць штаб людзей, ды выдзяляюцца жанчыны, якія ўжо многа год спяваюць на розных вясковых святах і гадавінах. Для рэпетыцый збіраюцца па хатах, бо клуб вечарамі займаюць мужчыны. Маюць у запасе многа колішніх песень. Вера Кашэль кажа: „Калісь не было куды пайсці, то я помню, малая была, круцілася каля мамы і ўсё галаву дурыла: мамо, навучы песню. І мама вучыла мяне..."

Арэшкаўскія пеўчыя належаць да пакалення 45—48-годкаў. Гэта добры век, калі можна і пра сябе падумаць, і пра працу. Праўда, пры Веры Кашэль круціцца ўжо чатырохгадовая ўнучка Эля і ад бабулі вучыцца жыць і працаваць. Таксама песні вучыцца спяваць. Але улюбёную песню пра камара спявае з дзедкам Валодзем.

*

За непаўторны народны каларыт, аўтэнтычныя, народныя ўборы і такія ж песні, журы цэнтральнага агляду „Беларуская песня — 73" аднадумна прызнала арэшкаўскім спевакам спецыяльную ўзнагароду „Нівы" з пажаданнем, каб яны і далей працавалі ў тым жа напрамку.

**Вера Леўчук**

НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

# Добрыя традыцыі

*Кіраўнік клуба «Рух» Марыя Галашэўская.*

Адным з найлепш дзейнічаючых клубаў „Рух" не толькі ў павеце, але і ў цэлым ваяводстве з'яўляецца клуб, які існуе пры гмінным цэнтры культуры ў Боцьках Бельскага павету. У мінулым годзе другі раз заняў ён заслужанае другое месца ў конкурсе на найлепшы клуб. Клуб у Боцьках цесна спалучае сваю дзейнасць з ГОК-ам, які ўзначальвае Генавефа Луц'ян. Для кіраўнічкі клуба „Рух" Марыі Галашэўскай і Генавефы Луц'ян цэнтр культуры з'яўляецца другім домам. Тут яны праводзяць найбольш часу. З вялікай ахвотай расказалі яны нам аб слаўным мінулым іх ранейшай святліцы ды вядомага нават у ваяводстве вакальна-музычнага калектыву пад назвай „Боцькавяцы". Гэты калектыў выконваў перш за ўсё мелодыі на народных матывах. Цікава было паслухаць аб дружным грамадскім чыне жыхароў Боцькаў пры пабудове новага будынка для цэнтра і аб актуальных напрамках дзейнасці ГОК-у. Зараз ГОК у Боцьках адзін з найпрыгажэйшых: новая мэбля, кветкі ў вазонах, каляровыя заслоны на вокнах... Дзейнічаюць тут дзіцячы танцавальны гурток, вакальна-музычны, дэкламатарскі, фатаграфічны, гурток жывапісцаў, акардэаністаў, спартыўны (адзін з найбольш актыўных), клуб любіцеляў тэатра і іншыя. Усе яны дзякуючы правільнай каардынацыі працы дабіліся значных поспехаў. Адлюстроўваюць гэта клубныя сценгазеты і хроніка. Гаспадарамі клуба з'яўляюцца члены ЗСМВ, што вельмі важна ў культурнай дзейнасці, дзе „адзін у полі не воін". Моладзь і старэйшыя жыхары Боцькаў ахвотна прыходзяць у клуб на сустрэчы з прадстаўнікамі творчых асяродзяў, на канцэрты ансамбляў песні і танца, на танцавальныя вечарыны, якія тут спалучаюцца з конкурсамі і мастацкай праграмай.

Спыталі мы пра дасягненні з апошняга перыяду. У адказ нашы субяседніцы падалі іх нямала: першае месца ў конкурсе на найпрыгажэйшую ляльку ў нацыянальным касцюме адной з рэспублік Савецкага Саюза, другое месца ў конкурсе на савецкую песню і на ваяводскім аглядзе калядных калектываў. У працы ГОК-у дапамагаюць Ірэна Лукашэвіч, Дануся Яблонская, Эдвард Карнашэўскі, Марэк Лясэцкі, Янка Длужэўскі, Людміла Карнашэўская, Рышард Свярчэўскі, Мікалай Турковіч, доктар Зіна Купрыянюк-Данілюк, Тэрэза Лабашак, Люба Галінская, Рахэля Сабковіч і іншыя.

Цяпер моладзь рыхтуе пастаноўку пад загалоўкам „Ці гэта каханне?" Кукальны калектыў рыхтуе п'есу „Аб сабачцы, які меў быць шчоткай". Новую праграму рыхтуе вакальна-музычны калектыў. Кіраўнік ГОК-у апрацоўвае хроніку культурных дасягненняў. У хроніку ўведзены многія матэрыялы, якія публікаваліся на старонках „Нівы".

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага.**



*Кіраўнік ГОК Г. Луц'ян (першая злева).*



# Нашаніўская пара

## „НАША НІВА" Ў АЦЭНЦЫ КРЫТЫКАЎ — ЗАКАНЧЭННЕ

Займаючыся аглядам ацэнак „Нашай нівы" з боку крытыкаў — публіцыстаў, гісторыкаў, палітыкаў і гісторыкаў літаратуры мы прывялі далёка не ўсе характэрныя галасы і выказванні. Не гаворачы ўжо аб міжваенным перыядзе, калі паявілася грамадная колькасць супярэчлівых выкладаў на тэму „Нашай нівы", таксама пасля II сусветнай вайны апублікавана нямала пазбаўленых паслядоўнасці артыкулаў. Адны з аўтараў запісваюць „Нашу ніву" да дэмакратычнай перыёдыкі, другія называюць яе газетай буржуазнай, рэакцыйнай і нацыяналістычнай, а трэція бачаць у ёй памочніка бальшавіцкага друку ў Беларусі. Дзе праўда? Які характар мела „Наша ніва" — рэакцыйны ці рэвалюцыйны? Кожная крайняя ацэнка гэтага часопіса пазбаўлена сэнсу.

„Наша ніва" не была ні рэакцыйнай, ні бальшавіцкай, але належала, несумненна, да дэмакратычнага напрамку ў тагачаснай еўрапейскай перыёдыцы. „Наша ніва" была тыповай сялянскай газетай. Адлюстраваліся ў ёй усе бакі сялянскай псіхікі, сялянскіх імкненняў і сялянскіх надзей. У яе публіцыстыцы падкрэсліваюцца ўсе супярэчлівасці сялянскага жыцця і сялянскага руху. „Наша ніва" была настолькі кансерватыўнай і настолькі рэвалюцыйнай, наколькі было кансерватыўным і рэвалюцыйным беларускае сялянства.

Ці ж на працягу дзевяці гадоў існавання „Нашай нівы" паявіліся ў ёй артыкулы, насычаныя нянавісцю да рускай, польскай, украінскай, літоўскай ці якой-колечы іншай нацыі? Ці калі-колечы ў „Нашай ніве" былі апублікаваны артыкулы, аўтары якіх баранілі інтарэсы памешчыцтва?.. Ці калі-колечы „Наша ніва" пахваляла вайну? Ці ж на працягу дзевяці гадоў свайго існавання „Наша ніва" не дамагалася грамадскіх змен, нацыянальнай школы, еднасці беларусаў-католікаў і беларусаў-праваслаўных? Ці ж „Наша ніва" не друкавала на сваіх старонках творы дэмакратычных пісьменнікаў Расіі, Польшчы і Украіны? Што было галоўнай мэтай „Нашай нівы"? Яе ідэйным заклікам, яе праграмай, яе імкненнем было імкненне перадавой часткі беларускага сялянства і беларускай інтэлігенцыі. Імкненне гэтае найпаўней выявілася ў паэтычным радку Купалы — „Людзьмі звацца!" „Наша ніва" старалася ўзбудзіць у беларусах пачуццё нацыянальнай і чалавечай годнасці. Гэта значыць старалася ўзняць беларускі народ да ўзроўню нацыянальнай свядомасці рускіх і палякаў. Гэты станоўчы аспект дзейнасці „Нашай нівы" быў заўважаны і падкрэслены Горкім. Несумненна, да гэтага аспекту беларускага руху адклікаўся і Ленін, які ў 1914 годзе напісаў, што мара беларусаў аб айчыне мае дэмакратычны характар. Ленін заўсёды адрозніваў нацыяналізм народа пануючага і нацыяналізм народа зняволенага, пазбаўленага сваёй дзяржаўнасці і нацыянальнай незалежнасці. Гэты апошні нацыяналізм быў з'явай непазбежнай, быў лагічным вынікам няволі.

Можам знайсці і ў сучасным свеце многа прыкладаў, якія сведчаць аб тым, што нацыяналізм прыгнечанай нацыі з'яўляецца вынікам прыгнёту пануючага народа. Прыклады такія знойдзем у многіх каланіяльных і паслякаланіяльных сістэмах. Дарэвалюцыйная Беларусь была калоніяй Рускай імперыі. Не рускі народ, а толькі царская сістэма загнала Беларусь у ярмо няволі. Рускі селянін і рускі рабочы не мелі ніякай карысці з таго, што беларус жыў у бядзе, што не меў нацыянальнай школы, што не меў ніякіх форм самаўправы. І таму дамагаючыся паляпшэння сялянскага жыцця, дамагаючыся беларускай школы і аўтаноміі, „Наша ніва" не выступала супраць сялян і рабочых якой-колечы суседняй нацыянальнасці. Выступала толькі і выключна супраць царскай сістэмы і супраць памешчыцкай стыхіі.

„Наша ніва" дала пачатак беларускаму нацыянальнаму адраджэнню, беларускай асвеце, беларускім выдавецтвам, беларускай літаратуры, беларускаму тэатру, беларускім аб'яднанням і таварыствам.

Ці ж гэта не было выкарыстана пры рэалізацыі ў 1919 годзе Ленінскай думкі аб стварэнні суверэннай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі? Нягледзячы на тое, што „Наша ніва" не была рэвалюцыйнай і бальшавіцкай газетай і не вяла беларусаў у напрамку сацыялістычнай рэвалюцыі, то ўсё ж такі грунт, створаны ёю, аблегчыў у многім ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая праводзілася ў БССР пасля Кастрычніка.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Дзень 15 сакавіка бягучага года быў звычайным, буднім, рабочым днём у працы пачатковай школы ў Саках Гайнаўскага павету. Урок гісторыі ў адным са старэйшых класаў адбываўся пры тэлевізары, па якому ішла спецыяльная перадача, прысвечаная жыццю і дзейнасці Станіслава Канарскага. На вялікім перапынку ўся школа высыпалася на прасохшую школьную пляцоўку і інтэнсіўна выконвала міжурочную фізічную зарадку. Адразу было відаць, што гэта форма заняткаў у Саках здаўна вядзецца рэгулярна, бо ўсе 157 школьнікаў ахвотна і спраўна выконвалі практыкаванні. Снегу ўжо амаль не было, і дырэктар школы Міхал Майстровіч, улавіўшы вольную хвіліну, заняўся з вучнямі пятага класа вясеннімі парадкамі вакол школы. Праўда, прыбіраць асабліва не было чаго — каля школы пануе ўзорны парадак ды чысціня, але знайшлося ўсё ж крыху леташняга лісця ды сухой травы. І яны былі з педантычнай дакладнасцю заграблены.



**Працавітыя дні ў М. Майстровіча...**

— Свой выбар настаўніцкай прафесіі я зрабіў даўно, яшчэ быўшы вучнем пачатковай школы ў Орлі, — прызнаецца М. Майстровіч. — Рашаючы ўплыў на гэта меў вобраз і прыклад майго настаўніка і выхаваўцы Лашкевіча. Ён ужо не жыве, але яго светлы вобраз у мяне захаваўся назаўсёды. Гэта быў сапраўдны прыяцель дзяцей і добры методык. Потым я паступіў у Педагагічны ліцэй у Бельску і там сустрэўся з другім выдатным чалавекам — настаўнікам беларускай мовы Фёдарам Скокам. Ён адкрыў перада мной чароўную прыгажосць роднай мовы. Настаўнічаць я пачаў у 1955 годзе ў Чыжах, потым вучыў у Дубічах Царкоўных, і ад 1961 года працую тут, у Саках. Вось ужо 11 год дырэктарам. У 1962 годзе закончыў аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Выкладаю беларускую мову, фізіку, хімію, тэхнічнае выхаванне. Хутка плыве час, — з сумам заўважае дырэктар, — вось толькі па сваіх выхаванках ды сівых валасах на ўласных скронях заўважаеш яго няспынны бег.

Ходзім з дырэктарам па класах і кабінетах — добрае абсталяванне, многа дапаможнікаў, чысціня. Усюды відаць рука і вока добрага гаспадара.

— Не маеце часам цяжкасцей у сваёй працы? — пытаюся.

— Спецыяльных цяжкасцей не адчуваю, хоць і не лёгкі гэта кусок хлеба — дырэктарства. Аж сорамна прызнацца, але да гэтага часу ні адзінага разу не быў я ў сапраўдным адпачынку — у здраўніцы ці на курорце. Кожныя канікулы, калі не ў мяне курс, то ў маёй жонкі, а як не курсы — дык рамонты. Усё няма як. Але звыкся я ўжо з гэтым. Найбольшая мая прыемнасць — гэта вядзенне ўрокаў. Змучаны ты ці не, здаровы ці недамагаеш, калі ж уваходзіш у клас — усё сыходзіць на другі план. Перад табой толькі вучні і прадмет. І задавальненне, калі бачыш дапытлівасць дзяцей, іх зацікаўленне прадметам. Часценька даводзіцца застацца і пасля ўрока, каб дадаткова нешта растлумачыць, паясніць...

— Ці здараюцца ў вас і цяжкія выхаваўчыя праблемы?

— Асаблівых не было: моладзь у нас сціплая і працавітая. Бацькі жыва цікавяцца і навукай дзяцей і іх паводзінамі. Але ёсць і такія, што за пляценнем каробак ды матаў з саломы свету перад сабой не бачаць. Да заробкаў на пляцёнках і дзяцей заганяюць са шкодаю для навукі, зразумела. Прыходзіцца гаварыць, выясняць.

Школа ў Саках карыстаецца аўтарытэтам у наваколлі, а бацькі ахвотна ўдзельнічаюць у грамадскіх чынах пры яе разбудове (дабудавалі майстэрню для практычна-тэхнічных заняткаў, дзве залы на класы і фізкультурную залу — разам вартасцю каля 500 тысяч злотых, у тым 50 працэнтаў грамадскага ўкладу). Цяпер плануюць далейшую разбудову фізкультурнай пляцоўкі і пасадку саду ў гонар 30-годдзя Народнай Польшчы.

Але не толькі справы школы ляжаць на сэрцы ў Міхала Майстровіча. Ён — старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народу ў Кляшчэлях. Член ПАРП і лектар партыйнай асветы ў падставовай партыйнай арганізацыі ў Саках. Радны гміннай рады нарадовай у Кляшчэлях і адначасова сакратар яе камісіі асветы і культуры. За кожнай з гэтых ганаровых і адказных функцый крыецца крапатлівая штодзённая ахвярная праца дырэктара Міхала Майстровіча.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ПРАДУКЦЫЯ ДЛЯ СЯЛЯН

Усюды многа будуецца: і ў вялікіх гарадах, і ў мястэчках, і на вёсках. Запатрабаванне на будаўнічыя матэрыялы вялікае. Будаўнічых бетонных элементаў таксама разыходзіцца вельмі многа. Не залежваюцца яны на складах будаўніча-мантажных прадпрыемстваў.

Нядаўна наведалі мы бетанярню ў Валілах. На пляцы спаткалі сялян з Новай Волі, якія прыехалі па бэлькі на хлявы. Выконваючы абавязкі кіраўніка Юрка Купрашэвіч паведаміў нам, што іх прадпрыемства мае найбольш заказаў на элементы „страповыя". Сяляне купляюць таксама шмат пустакоў, якія прадукуюцца тут ад красавіка да канца верасня. Асартымент прадукцыі параўнальна большы, бо і плыты на ходнікі, і кравэнжнікі, і трэлінка, і цэмбравіны да студзенак, а нават нетыповыя элементы вырабляюцца гэтым прадпрыемствам. У мінулым годзе план прадукцыі склаў суму 4,5 мільёна злотых. 32-асабовы калектыў прадпрыемства значна перавыканаў планы. План прадукцыі на 1973 год павялічаны да 6 мільёнаў злотых, але рабочыя хочуць і гэты план значна перавыканаць. Няма тут такіх, што занядбоўваюцца ў працы. Ёсць толькі аб'ектыўныя цяжкасці — хаця б клопаты з давозам жвіру з Калоднага і недахопы сталі. А ўсё ж графік планаванай прадукцыі апярэджваецца.

(мх)

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**СЯМЕЙНАЯ**




*Дай Божа нідзелькі прыждаці,*
*Та я пайду да роду гуляці,*
*Та я пайду да роду гуляці.*
*Як мне скажут да дна выпіваці,*
*Я й ні буду да дна выпіваці,*
*Я й ні буду да дна выпіваці.*
*Я й ні буду да дна выпіваці —*
*Ёсць у міне дзве беданькі ў хаці,*
*Ёсць у міне дзве беданькі ў хаці:*
*Адна беда — дзецына малая,*
*Друга беда — свекруха ліхая.*
*Друга беда — свекруха ліхая.*
*Хоць ліхая, вечэрэньку варыць,*
*А свёкерко дубінаньку парыць.*
*А свёкерко дубінаньку парыць.*
*А хоць парыць, та ні будзя біці —*
*Седзіць мілы — будзя бараніці.*
*Седзіць мілы — будзя бараніці.*
*Седзіць мілы, дробны лісты пішэ —*
*Ён малую дзіціну калышэ.*
*Ён малую дзіціну калышэ:*
*— Люляй, люляй, дзіціна малая,*
*Гуляй, гуляй, жонка маладая!*
*Гуляй, гуляй жонка маладая.*
*Гуляй, гуляй, жонка маладая,*
*Паколь мая галоўка жывая.*
*Паколь мая галоўка жывая.*
*Бо як мая галоўка хібнецца,*
*Тады твае гулянне мінецца.*
*Тады твае гулянне мінецца.*

Ад Зоф'і Марцінчык, 1921 года нараджэння, вёска Меляшкі Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.




„Хачу табе, „Ніва", напісаць аб становішчы сваёй вёскі і папрасіць дапамогі. Цяжка нам, жыхарам вёскі Нетупа. Знайшлася прычына, якая палохае гаспадароў. Некаторыя нават гатовы зрачыся бацькоўскіх загонаў, калі няма ўласнай рабочай сілы. Нельга сказаць, што няма ў нас сельскагаспадарчых машын. Нашу вёску абслугоўвае гуранскі сельскагаспадарчы гурток. Аднак яго кіраўнікі дрэнна выконваюць паверaныя ім абавязкі, хаця бяруць за гэта немалую зарплату. У выніку іх нядбайства жыхары навакольных вёсак трацяць многа часу і маюць вялікія затраты. Між іншым, адчулі гэта і нашы гаспадары, ходзячы ў час жніва за снопавязалкай, без якой не хапала нам сілы адолець жніво. Пасля дзвюх нядзель гэтай хадзьбы мы ўнеслі скаргу на старшыню Рыгора Турыча... Але тое не найгоршае, што было, а тое, што будзе, бо Турыч цяпер смяецца над намі: у гэтым годзе не запісаў нават на паперы, якія і калі будуць патрэбны нам паслугі сельскагаспадарчых машын, што ў іншых вёсках ужо зрабіў, а нам загадаў купляць коней, якіх мы па двое трымаць не можам. І яшчэ да таго загадаў бухгалтэры выставіць нам нейкія дадатковыя рахункі, аб якіх мы самі не знаем, і нам папрыходзілі ўпамненні. Цяпер нас страшаць: „Паплаціце хутчэй, а то каморнік прыйдзе".

Рашыў я пашукаць выясненняў у павятовым камітэце партыі ў Саколцы. Сакратар па сельскагаспадарчых справах тав. Анатоль Цішэўскі добра ведае патрэбы сялян у гэтым павеце.

— Сельскагаспадарчы гурток у Гуранах, — гаварыў ён, — адзін з лепшых на Сакольшчыне. Яны супольнымі сіламі апрацоўваюць там шмат дзяржаўнага фонду зямлі. У мінулым годзе з плошчы ў 50 гектараў сабралі ў Гуранах звыш 30 цэнтнераў жыта з кожнага гектара. Спрадвяку не было ў Гуранах такога ўраджаю. Гэты подзвіг тамашніх гуртакоўцаў варты пахвалы і распаўсюджвання.

Але і жыхары гэтай невялічкай вёскі, з якой напісалі да вас ліст, таксама людзі сапраўды працавітыя. Нядаўна я быў у іх на сходзе, прысвечаным абмеркаванню „Ліста Сакратарыята ЦК партыі і Прэзідыума Ўрада аб павышэнні жывёлагадоўлі і сельскагаспадарчай вытворчасці". Аднесліся да гэтай справы ў Нетупе вельмі станоўча і прынялі на сябе даволі каштоўныя абавязацельствы.

— А што, таварыш сакратар, мяркуеце аб гэтых канкрэтных закідах, якія знаходзяцца ў лісце?

— Многа мужчын з вёскі Нетупа працуе ў лесе. Гаспадаркамі займаюцца жанчыны. Ім трэба дапамагчы. Гэта факт. У час мінулагодняга жніва сапраўды былі ў мяне дзве жанчыны з Нетупы са скаргаю на Турыча, што не дае ім снопавязалкі. Хапіла адной тэлефоннай размовы, каб гэтую справу вырашыць. Іншыя закіды, асабліва той, што дыспетчар гуранскага гуртка не захацеў прымаць заказаў на гэты год, мы зараз выяснім у размове з зацікаўленымі.

І сапраўды, неўзабаве сакратар, Турыч і я сядзелі разам у рэдакцыйнай машыне ды імчаліся ў Крынкі на пасяджэнне гміннага камітэта партыі.

Турыч — чалавек старэйшага ўзросту, пасівелы, год пад 60, з выгляду тыповы селянін. Бароніцца заўзята.

— Значыць што не даў снопавязалкі? А дзе ж я іх меў браць усім у адзін дзень? Ды сваё, кулковае збожжа чакала. Я тады не ведаў, што такое сон... Не запісваў на 1973 год? Ну, гэта дык зусім хлусня! Я асабіста ва ўсіх гаспадароў пабываць не магу, але ў Нетупе былі члены праўлення нашага гуртка. Можна праверыць у кніжцы запісаў.

— Ну, ладна, — супакойвае яго сакратар. — Не нервуйся, Турыч. Трэба ж у Нетупу яшчэ раз паехаць, спытаць усіх гаспадароў і абмеркаваць усё дакладна. Там жа ёсць партыйная арганізацыя, сакратаром якой з'яўляецца таварыш Звяжынскі, чалавек разумны. Хай вам дапаможа. Аформіце гэта?

— Зразумела, — адказаў Турыч.

**Віктар Рудчык**

## Ці ведаеце, што...

...820 асоб з Беластоцкага ваяводства паглыбляе свае веды ў тэлевізійным сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзякуючы якому можа павышаць свае кваліфікацыі моладзь, якая застаецца на вёсцы і вядзе гаспадаркі.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ВОСЬ ЯНО ШТО!

Вясною Януар Чарапаха стаў прыкмячаць, што яго сусед Пятро Дзяркач цэлымі вечарамі праседжвае каля акна і за чымсьці назірае.

— І што ён там убачыў? — вярцелася думка ў Чарапахі.

Некалькі вечароў шнарыў Чарапаха па месцы, куды ўглядаўся Дзяркач: абмацаў кожнае дрэўца, заглянуў пад кожны корч і, не знайшоўшы нічога падазронага, зусім страціў спакой. А Дзяркач, як на тое, усё тырчаў у сваім акне і што найбольш раздражняла Чарапаху, шчасліва ўсміхаўся.

— Слухай, Людміла, — спытаў Чарапаха жонку, — як ты думаеш, што гэта Дзяркач там выседжвае?

— Хто яго ведае, — паціснула плячыма Людміла, — відаць, не мае работы, вось і сядзіць.

— Ой, не гавары, — нахмурыўся Чарапаха, — нешта тут не чыстае, не будзе ж чалавек вось так, ні сеў, ні ўпаў, каля акна слупянець.

— Калі цябе так цікавіць, дык і спытай у яго, а мне няма часу такімі глупствамі галаву забіваць.

— Гм, — не знаходзіў сабе месца Чарапаха, — ты думаеш — гэта глупствы? Глыбока памыляешся. Нешта тут ёсць.

Нейк, ідучы з працы, ён сустрэўся з Дзеркачом:

— Вечар добры, сусед.

— Добры вечар.

— Вясны дачакаліся, раскошна наўкола — хутка і маладой цыбулькі пакаштуем.

— Найпрыгажэйшая пара году! — удыхнуў на поўныя грудзі паветра Дзяркач. — Ведаеце, я найбольш люблю вясну: усё прачынаецца, усё цвіце, усё да сонца цягнецца...

— Вясну любіце, а на двары я вас нешта ніколі не бачу.

— А мне і так усё відаць. Між вашаю хатаю і Кліменчуковаю ёсць прастор. Дык вось я вечарамі з акна лявадаю любуюся і салавейку слухаю. Там, ведаеце, хіба ж нейкі чараўнік пасяліўся!

— Вось яно што! — звёў бровы Чарапаха і паспешна развітаўся з Дзеркачом.

За паўгадзіны, з ног да галавы абляпаны граззю, Чарапаха з доўгаю тычкаю ў руках ганяўся па лявадзе за чараўнікам-салавейкам...

А калі ўвечары Пятро Дзяркач выглянуў з свайго акна, дык неспадзявана выявіў, што прастор між Чарапахаваю і Кліменчуковаю хатамі завешаны нагавіцамі ды падзертым радном.

На суседнім панадворку шчасліва хіхатаў Чарапаха.

**Павел Дабранскі**

*Вясенняя спеўка.*

# НІЎКА

## Талаваломка

Трэба перапраўіцца праз рэчку шырынёй у 3,5 м з дапамогай дзвюх дошак, кожная даўжынёй у 3 м. Як гэта зрабіць?

* * *

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**

## ГУМАР З

### ЗДАГАДАЎСЯ

Нарадзілася ў бедняка дзіцё. Вось бацька і папрасіў за хроснага багатага суседа, які меў вялікую пасеку.

Не мінула і тыдня, як бядняк зноў прыйшоў да багацея:

— Ведаеце, куме, нешта ваш хроснік усё „мё“ ды „мё“ кажа. Я спачатку не мог зразумець, чаго яму трэба, аж урэшце здагадаўся — мёду хоча!

*Тата ідзе на футбол.*

## ДЗЯВОЧАЯ НЕ ЛІРЫЧНАЯ

Ты пад акном не стой
Да самай раніцы.
Я не пайду з табой,
Ты горкі п'яніца.
Я не хачу з табой
Быць і хвілiначкі,
Бо ў цябе любоў
Да чацвярцiначкі.
Ужо не раненька,
Не страш пагрозамі,
Ты хлопец п'яненькі,
А я цвярозая.
Ну як з табой мне быць,
Ах, мой міленечкі,
Умееш ты хадзіць
На чацвярэнечках.
З табой нам не гуляць
Густым бярэзнікам,
Ты любіш начаваць
У выцвярэзніках...

**Рыгор Барадулін**

### ЛІШНІЯ ТУРБОТЫ

— Я не ўпэўнены, — сказаў хворы, — ці знойдзецца ў вас лякарства ад маёй хваробы.

— Што вы, — запярэчыў лекар, — у нашай бальніцы столькі лякарств, што для некаторых пакуль яшчэ і хвароб няма.

### КОЛЬКІ ГАВАРЫЛА

Маленькі Міхасёк расказвае сваёй маме:

— Ведаеш, каго я бачыў? Мыш, велізарную, як гіпапатам!

Маці паціскае плячыма:

— Я табе ўжо трыццаць шэсць мільёнаў разоў гаварыла, каб ты ніколі не перабольшваў!

### ВІННЫЯ ПРЫМАЎКІ

У віна спыталі: „Ты прыносіш гора ці шчасце?“ Віно адказала: „Колькі шчаслівых — не ведаю, а гаротнікам і ліку няма“.

✲

Хто віно п'е ў доўг, той двойчы п'янее: і калі п'е, і калі разлічваецца.

✲

Напаілі казла віном — пайшоў з ваўком біцца.

✲

Дзе хлеб, там і жыццё, дзе віно, там і лодарнічанне.

✲

Хто віно п'е, у таго бацькі плачуць.

✲

Віно чалавека не заб'е, але да сабачага жыцця давядзе.

✲

Віно пі з маленькай пасудзіны, веды — з вялікай.

### СКАРОЧВАЕ ЖЫЦЦЁ

Скардзіцца п'яніца:

— Гэта праўду кажуць, што гарэлка скарочвае жыццё. Як вып'еш зранку грамаў трыста, дык дзень праляціць, як адна гадзіна. А як няма ў кішэні нават на куфаль піва, — дык дзень такі до-о-оўгі-доўгі...

### НАРМАЛЬНАЯ ЖОНКА

Сустрэліся сябры. Разгаварыліся.

— Чуў я, дружа, што ў цябе вельмі сярдзітая жонка, — кажа адзін.

— Ды не, жонка ў мяне нармальная: як зробіш добра — не пахваліць, а як дрэнна — дык вылае, — сказаў другі.

### „АДВАЖНЫЯ“ ПАЛЯЎНІЧЫ

Двое адправіліся на паляванне. Калі яны зайшлі ў густы чарот, адзін з іх сказаў:

— Асцярожна, тут могуць быць качкі...

— Хай сабе будуць. Ты думаеш, я іх баюся?! — адказаў другі.

## МІНІБАЙКІ

### ПАРА ПАКОНЧЫЦЬ!

Заяц выступіў з заявай:
— Пара пакончыць з Мядзведзем!
Нечаканая для зайца смеласць!
Відаць, Мядзведзь у лесе здох.

### ІНДЫК

У індыка быў намеснік — шпак. Пачаў індык думаць, як ад яго вызваліцца. Думаў, думаў — і здох.

З непрывычкі — раней за яго шпак думаў.

**М. Азаў, У. Цiхвінскі**

...Ён вельмі разгневаўся на мяне, калі даведаўся, што я аб ім такой жа думкі, якой ён аба мне.

...Ён стаяў вышэй усіх забабонаў, апрача ўласных.

## КУРЁЗЫ

### ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ МІНУТЫ

Часы мяняюцца: цяпер наследнікі зладзеяў, якія паказаны ў вядомым італьянскім фільме „Выкрадальнікі веласіпедаў“, займаюцца больш сучасным, а галоўнае больш даходным бізнесам — крадзяжом аўтамабіляў. У мінулым годзе італьянскія зладзеі ўкралі сто семдзесят пяць тысяч машын — удвая больш, чым французскія, англійскія і заходне-германскія выкрадальнікі, разам узятыя. Скаргі ад пацярпеўшых уладальнікаў аўтамабіляў паступалі ў італьянскую паліцыю ў сярэднім кожныя тры мінуты.

### АБОДВА Ў НАКДАЎНЕ

Алімпійскі рынг Токіо стаў сведкам даволі рэдкага выпадку: у час бою румына Канстанціна Круду і кубінца Роберта Камінера сапернікі „сінхронна“ нанеслі адзін аднаму моцныя ўдары і... абодва аказаліся ў накдаўне. Камінера адразу ж ускочыў, а яго сапернік не мог прыняць баявую стойку да ліку „восем“. Але пераможцам аказаўся ж Круду, якому пасля трэцяга раунда чатыры арбітры з пяці аддалі перавагу.

### ЯК ГУКНЕШ...

Нядаўна жыхар Лондана Рой Мітчэл узбудзіў судовую справу супраць свайго суседа, скардзячыся, што ў адну з нядаўніх начэй на працягу некалькіх гадзін той літаральна не даваў яму заплюшчыць вачэй. Паводле слоў Мітчэла, з кватэры суседа неслася „дзікая джазавая какафонія“.

Аднак, на здзіўленне скаржніка, іск быў адхілены. Сусед прадставіў суду сведак, якія пацвердзілі, што „дзікая какафонія“, аб якой ішла гутарка, на самай справе была запісам гулянкі, якая адбылася папярэдняй ноччу ў кватэры самога Мітчэла.

## СМЯЕЦЦА З НАМІ

*Певень здзіўляў сваім спевам куратнік, а думаў, што здзіўляе ўвесь свет.*

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020